• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

26 ліпеня 1996 г. пятніца, № 188 (22991)

# ЗВЯЗДА



XXVI ЛЕТНІЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ

## ТАБЛІЦА РАЗМЕРКАВАННЯ 70 КАМПЛЕКТАЎ УЗНАГАРОД ПАСЛЯ ПЯЦІ ДЗЁН СПАБОРНІЦТВАЎ

Atlanta 1996

| № п/п | Назва краіны | Медалі Золата | Серабро | Бронза | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Расія | 11 | 7 | 5 | 23 |
| 2. | ЗША | 10 | 14 | 4 | 28 |
| 3. | Францыя | 6 | 3 | 7 | 16 |
| 4. | Кітай | 5 | 5 | 6 | 16 |
| 5. | Польшча | 5 | 2 | 3 | 10 |
| 6. | Італія | 3 | 4 | 4 | 11 |
| 7. | Куба | 3 | 4 | 2 | 9 |
| 8. | Паўдн. Карэя | 3 | 3 | 3 | 9 |
| 9. | Аўстралія | 3 | 2 | 4 | 9 |
| 10. | Турцыя | 3 | - | 1 | 4 |
| 11. | Ірландыя | 3 | - | - | 3 |
| 12. | Японія | 2 | 2 | 1 | 5 |
| 13. | Бельгія | 2 | 1 | 2 | 5 |
| 14. | ПАР | 2 | - | 1 | 3 |
| 15. | Новая Зеландыя | 2 | - | 1 | 3 |
| 16. | Венгрыя | 1 | 2 | 5 | 8 |
| 17. | Украіна | 1 | - | 2 | 3 |
| 18. | Югаславія | 1 | - | 1 | 2 |
| 19. | Румынія | 1 | - | 1 | 2 |
| 20. | Коста-Рыка | 1 | - | - | 1 |
| 21. | Казахстан | 1 | - | - | 1 |
| 22. | Арменія | 1 | - | - | 1 |
| 23. | Германія | - | 6 | 9 | 15 |
| **24.** | **Беларусь** | **-** | **3** | **2** | **5** |
| 25. | Грэцыя | - | 2 | - | 2 |
| 26. | Балгарыя | - | 1 | 4 | 5 |
| 27. | Канада | - | 1 | 2 | 3 |
| 28. | Іспанія | - | 1 | 1 | 2 |
| 29. | Бразілія | - | 1 | 1 | 2 |
| 30. | КНДР | - | 1 | 1 | 2 |
| 31. | Швецыя | - | 1 | 1 | 2 |
| 32. | Узбекістан | - | 1 | - | 1 |
| 33. | Аўстрыя | - | 1 | - | 1 |
| 24. | Фінляндыя | - | 1 | - | 1 |
| 35. | Вялікабрытанія | - | 1 | - | 1 |
| 36. | Галандыя | - | - | 4 | 4 |
| 37. | Малдавія | - | - | 1 | 1 |
| 38. | Грузія | - | - | 1 | 1 |
| **Усяго:** | | **70** | **70** | **80** | **220** |

*ВІЗІТ*

# ПРАВАВАЯ БАЗА БЕЛАРУСКА-ТУРЭЦКІХ АДНОСІНАЎ РАСШЫРАЕЦЦА

**Беларуска-турэцкія адносіны цяпер будуць рэгуляваліся цэлым пакетам пагадненняў, падпісаных у час першага афіцыйнага візіту ў Турцыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.**

Вялікае значэнне для двухбаковых адносінаў будзе мець Дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве паміж дзяржавамі. Гэты рамачны дакумент, подпісы пад якім паставілі 25 ліпеня ў Анкары прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка і Сулейман Дэмірэль, вызначае канцэпцыю ўзаемаадносінаў дзвюх дзяржаў. Па выніках перагавораў на вышэйшым узроўні прынята таксама сумеснае камюніке, у якім зафіксаваны намеры развіваць эканамічнае і палітычнае супрацоўніцтва Беларусі і Турцыі. Бакі падпісалі Пагадненне аб прадухіленні двайнога падаткаабкладання. Нягледзячы на тое, што гэты дакумент з'яўляецца даволі стандартным для двухбаковых адносінаў, работа над яго падрыхтоўкай, як адзначаюць спецыялісты, была даволі працаёмкай і таму канчатковы вынік — падпісанне — мае вялікае значэнне. У агульным эканамічным пратаколе аб намерах турэцкі бок узяў на сябе абавязацельствы выдзеліць крэдыт Беларусі ў памеры 50 мільёнаў долараў.

Немалаважным вынікам першага афіцыйнага візіту Прэзідэнта Беларусі ў Турцыю з'яўляецца і падпісанне двухбаковага Пагаднення аб супрацоўніцтве ў барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, у якім асаблівая ўвага ўдзелена ўзаемадзеянню ў барацьбе з наркабізнесам і міжнародным тэрарызмам. Як вядома, большая частка наркотыкаў, якія знаходзяць нашы мытныя службы, ідзе сёння праз Турцыю.

Відаць, турыстычны бізнес Беларусі таксама атрымаў вялікую падтрымку. Сярод падпісаных беларуска-турэцкіх дакументаў — Пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне турызму. Дабрабыт турэцкіх грамадзян, як вядома, у многім залежыць ад развіцця ў гэтай краіне міжнароднага турызму. Таму Турцыя можа аказваць нам істотную тэхнічную дапамогу ў развіцці інфраструктуры турызму, якой у нас практычна пакуль што няма.

Другі дзень візіту кіраўніка нашай дзяржавы ў гэту краіну быў не менш насычаным. Аляксандр Лукашэнка і члены афіцыйнай дэлегацыі сустрэліся са Старшынёй Вялікага нацыянальнага сходу Турцыі Мустафой Калемлі, а таксама правялі перагаворы з прадстаўнікамі буйнога бізнесу краіны.

25 ліпеня Прэзідэнт Беларусі вылецеў у Стамбул.

**БЕЛТА.**

*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ... у Расіі затрымана беларускае мяса з вялікім утрыманнем стронцыю

**Як паведамілі некаторыя расійскія сродкі масавай інфармацыі, у Расіі быў выяўлены вагон з мясам з вялікім утрыманнем стронцыю, што прыбыў з Беларусі.**

Па словах галоўнага дзяржаўнага ветэрынарнага інспектара Мінсельгасхарчу Станіслава Шпілеўскага, афіцыйныя службы з гэтай нагоды пакуль ніякіх адпаведных дакументаў не атрымлівалі. Як вядома, мяса, што ідзе за мяжу краіны, праходзіць ветэрынарны кантроль у абласных лабараторыях, а таксама на перапрацоўчых прадпрыемствах. Сертыфікат якасці потым разам з прадукцыяй накіроўваецца заказчыку. Улічваючы, што ў дзвюх краінах — Расіі і Беларусі — устаноўлены розныя нормы ўтрымання стронцыю ў касцях жывёлы (не ў мясе!) і што такія праблемы раней ужо ўзнікалі, то не выключана паўтарэнне інцыдэнту. Па нормах нашых суседзяў, утрыманне стронцыю ў касцях не павінна перавышаць 100 бекерэляў, у той час як у Беларусі яго ўтрыманне зусім... не нарміруецца. Як растлумачыў галоўны дзяржаўны ветэрынарны інспектар, робіцца гэта таму, што косці не лічацца харчовым прадуктам, да таго ж, выхад стронцыю ў вадкасць, напрыклад, пры прыгатаванні ежы не перавышае 0,1—0,3 працэнта, што не лічыцца небяспечным для здароўя. Чаму Расія, тым не менш, уводзіць абмежаванні (асабліва на ўвоз прадукцыі з Магілёўскай і Гомельскай абласцей), здагадацца няцяжка. Між іншым, як стала вядома, адпаведныя службы і ў нас у краіне рыхтуюць вынесці на разгляд пытанне аб пераглядзе нормаў утрымання стронцыю. Што ні кажы, усё ж гаворка ідзе пра здароўе людзей.

Нагадаем, што раней праблемы такога характару ўжо ўзнікалі ў Санкт-Пецярбургу, куды ішло шмат мяса з Беларусі.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# СВЯТА СУВЕРЭНІТЭТУ Ў ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Шэсць гадоў таму Вярхоўны Савет дванаццатага склікання на першай сесіі ўрачыста абвясціў «поўны дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх зносінах». І гэты дзень вырашана было адзначаць як нацыянальнае свята Беларусі.

Але, мабыць, аўтары гэтага рашэння тады яшчэ слаба ўсведамлялі, што Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце паўплывае на ўвесь далейшы ход гісторыі дзяржавы, пакладзе пачатак адліку новага часу — існавання незалежнай Рэспублікі Беларусь. Дарэчы, ужо 19 верасня 1991 года не без уплыву гэтага дакумента будзе прыняты наступны: аб перайменаванні БССР у Рэспубліку Беларусь. Шэсць гадоў для гісторыі імгненне, а для чалавека пэўная частка жыцця. За гэты час паспела падрасці новае пакаленне, станаўленне і сталенне якога ўжо прайшло ва ўмовах суверэннай дзяржавы. Таму і існуюць на беларускую незалежнасць розныя пункты гледжання.

З якімі ж пачуццямі і думкамі сустракаюць гэты дзень нашы суайчыннікі — простыя грамадзяне і палітыкі? Менавіта ад пазіцыі апошніх часта залежыць, як і што думаюць першыя. Таму напярэдадні гэтай падзеі мы звярнуліся да людзей, якіх не трэба асабліва прадстаўляць нашым чытачам. Мы задалі ім літаральна два пытанні: «Што для вас азначае дзень 27 ліпеня?» і «Якое месца павінен заняць Дзень Незалежнасці ў грамадскім жыцці нашай дзяржавы?»

**Пятро Краўчанка, старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па міжнародных справах:**

— Для мяне, як і для кожнага свядомага беларуса, у слове «незалежнасць» заключаецца вельмі вялікі сэнс. Я заўсёды лічыў і лічу, што незалежнасць для чалавека і краіны неабходная, як паветра для птушкі. Гэта той унутраны стан, які павінен быць у душы і ў сэрцы кожнага чалавека. Я з зайздрасцю зараз назіраю, як нашы суседнія народы з вялікай пашанай адносяцца да нацыянальнага свята такога кшталту, як Дзень Незалежнасці. На вялікі жаль, у нас яно праходзіць вельмі абыякава, што называецца, паміж іншым. Пры ўсёй павазе да такога дня, у нас праз некаторы час будзе іншая сістэма каштоўнасцей і іншыя святочныя мерапрыемствы. Думаю, Дзень Незалежнасці павінен быць агульнанацыянальным святам, якое адзначалася б пачынаючы ад дзіцячага сада і школы да вайсковай часці і нашых дыпламатычных прадстаўніцтваў недзе далёка за мяжой.

**Сямён Домаш, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, член Прэзідыума:**

— Я заўсёды з'яўляўся прыхільнікам незалежнасці нашай краіны і права нашага народа выбіраць самому накірункі развіцця беларускай дзяржаўнасці і ўсіх сфер жыцця. Гэты дзень мне нагадвае, што наша пакаленне павінна зрабіць усё дзеля таго, каб замацаваць нашу незалежнасць. Асабіста для мяне гэта з'яўляецца сэнсам жыцця і палітычнай дзейнасці. Лічу, што Дзень незалежнасці павінен стаць галоўным святам у грамадскім жыцці Рэспублікі Беларусь і заклікаць наш народ да ўсведамлення таго, што наш лёс залежыць ад нас саміх, што цяжкасці нашага жыцця мы зможам пераадолець, апіраючыся менавіта на ўласныя сілы.

**Станіслаў Шушкевіч, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:**

— Я лічу, што 27 ліпеня — гэта важны дзень, але калі казаць шчыра, то не найважнейшы. Прыняўшы ў 1990 годзе Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце, мы фактычна пацвердзілі тут незалежнасць, аб якой гаварылася яшчэ ў 1918 годзе. Хаця такі факт і не прызнаваўся. Тым не менш, гэта была прыстойная дэкларацыя, над якой працавалі нават тыя, хто яе не падтрымліваў потым. Мы прыйшлі да высновы, што такі дакумент патрэбна было ствараць. Яе праект, зроблены ў ЦК КПБ, складаўся з трыццаці васьмі пунктаў і быў прапанаваны яшчэ Дземянцеем. Але ў выніку быў прыняты дакумент з 12 пунктаў. Сёння я гляджу на Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце і лічу, што таму часу яна найбольш адпавядала. І дзень, калі дэкларацыя была прынята, — гэта сапраўды свята. Таму мне шкада, што гэты дзень з некаторага часу перастаў быць рэальна святочным, што і 25 сакавіка таксама не свята.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

*... ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ШТО ПАСЕЯЛІ, ТОЕ І ЗБЯРОМ. АЛЕ Ж ПАКУЛЬ ІСНУЮЦЬ ПРАБЛЕМЫ З ТЭХНІКАЙ І ПАЛІВАМ

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў штабе па ўборцы, які працуе ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, жніво ў асноўным пачалося на падгарэўшых плошчах, дзе збожжа выспела. Паводле апошніх даных, якія маюцца ў штабе, сабралі збожжа з васьмі тысяч гектараў, сярэдні паказчык ураджайнасці складае 20,8 цэнтнера з гектара.**

Шмат машын, якія знаходзяцца ў эксплуатацыі дзесяць і болей гадоў. Найбольш добра падрыхтавана тэхніка ў Гродзенскай вобласці — на 95 працэнтаў. У гэтым годзе, як лічыць начальнік упраўлення земляробства і раслінаводства Уладзімір Сцяпанавіч Куратнік, хлеб больш важкі, можна разлічваць на ўраджай у 2,6 мільёна тон адборнай вагі (маецца на ўвазе зерне пасля дапрацоўкі). Гэта значыць, ёсць магчымасць перавысіць узровень мінулага года на 700—800 тысяч тон. Асноўная праблема — гатоўнасць тэхнікі і паліва.

Менавіта на гэтыя патрэбы пералічана толькі Брэсцкай вобласці пад будучы ўраджай 60 мільярдаў рублёў, а таксама 20 мільярдаў рублёў тэхнічнага крэдыту пад паліва. Наогул, на Брэстчыне, як паведаміў намеснік старшыні абласнога камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Аляксандр Сяргеевіч Панычанкаў, амаль ва ўсіх раёнах выбарачна пачалося жніво, шмат гаспадарак правялі пробную касьбу. Зерне, праўда, сыраватае, яго вільготнасць перавышае зараз дваццаць працэнтаў. Але ўжо сем раёнаў вобласці здалі 5.600 тон збожжа. Калі надвор'е падтрымае, то жніво пойдзе поўным ходам.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*ВЕРСІІ*

# СЕНСАЦЫЙНАЯ ЗАЯВА З ЭФЕКТАМ ВЫБУХУ

**25 ліпеня ў Маскве адбылася прэс-канферэнцыя аднаго з лідэраў кампартыі Расіі, старшыні Камітэта па бяспецы Дзярждумы Віктара Ілюхіна, на якой прысутнічала звыш 100 расійскіх і замежных карэспандэнтаў. На канферэнцыі прагучала сенсацыйная інфармацыя аб змове супраць працэсу інтэграцыі Расіі і Беларусі, якая нібыта рыхтуецца спецслужбамі ЗША.**

У прыватнасці, Віктар Ілюхін сказаў: «Што тычыцца Расіі, то Захад па-ранейшаму пад прыкрыццём назойлівай рыторыкі аб бяццам бы важнай яе ролі ў сусветным супольніцтве працягвае добра прадуманую тактыку ўтрымання нашага боку ва ўздзе і залежнасці ад Захаду — эканамічнай, палітычнай, ваенна-стратэгічнай. Напалюецца страсці вакол расійскіх вострых унутрыпалітычных праблем. І што кідаецца ў вочы, да гэтай кампаніі падключаны асобныя сродкі масавай інфармацыі.

Не можа не звярнуць на сябе ўвагі і сітуацыя, якая складваецца вакол Беларусі. Некаму вельмі хочацца перашкодзіць інтэграцыйным працэсам паміж Расіяй і Беларуссю, некаму вельмі хочацца спачатку скампраметаваць, а потым і звергнуць беларускага Прэзідэнта А. Р. Лукашэнку. Праанізуйце публікацыі ў замежнай і расійскай прэсе, і вы ўбачыце, што ажыццяўляецца шырокамаштабная аперацыя па разбурэнню расійска-беларускіх сувязей, а таксама сувязей з іншымі славянскімі дзяржавамі. І гэта адбываецца ва ўмовах працэсу іх паглыблення.

Што тычыцца Беларусі, то хацелася б зрабіць здабыткам шырокай публікі вельмі трывожную інфармацыю. Стала вядома, што група высокапастаўленых афіцэраў ЦРУ з 18 чалавек на чале з палкоўнікам Полам Гейбартам з 10 чэрвеня 1996 года знаходзіцца ў Варшаве для падрыхтоўкі спецыяльнай падрыўной аперацыі ў Беларусі. Сутнасць аперацыі наступная. Па-першае, стварэнне ў гарадах Мінск, Орша, Віцебск, Магілёў забастовачных цэнтраў тыпу польскай «Салідарнасці».

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## АДНЫМ СКАЗАМ

❑ З 1 студзеня **лік стратных прадпрыемстваў** узрос з 1571 да 2622 на сённяшні дзень.

❑ У 1995 годзе з 17.757 зарэгістраваных беспрацоўных **выпускнікі вучэбных устаноў** склалі 2209 чалавек (12,4 працэнта), **моладзь ва ўзросце 16—24 гадоў** — 32 працэнты.

❑ **Колькасць вайскоўцаў** у 1994 годзе складала 92 тысячы чалавек, у бягучым — 85 тысяч.

❑ На 1 красавіка гэтага года ў лясах Віцебскай вобласці жыло **473 ваўкі.**

❑ За шэсць месяцаў у рэспубліцы **ўчынена 501 наўмыснае забойства** і замах на жыццё грамадзян.

❑ Сёння **колькасць жыхароў** у маладых краінах Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі **павялічваецца амаль у 10 разоў хутчэй**, чым у развітых краінах: так, калі ў першай групе дзяржаў кожную мінуту **на свет з'яўляюцца** ў сярэднім 240 нованароджаных, то ў другой — толькі 26.

❑ **Кошт расійскіх энергарэсурсаў** за першыя чатыры месяцы склаў 61,4 працэнта імпарту з Расіі і палову імпарту СНД.

❑ Са студзеня па чэрвень **у сферы эканомікі раскрыта** 12,6 тысячы злачынстваў, па якіх узбуджана 9,9 тысячы крымінальных спраў.

*Антаніна ХАТЭНКА*

**«...Незалежнасць — гэта... Уладзімір Арлоў вывеў сваю формулу Незалежнасці, і яна стала замоўным шыфрам часу, пакалення, абуджэння. Зрабілася балесным выклікам чалавека да народа, голаснага сэрца да знямеласці, веры да безнадзейнасці.**

**Незалежнасць — гэта... Спрабую адчуць смак і водар гэтага слова-шыфру і я, быццам узнаўляю паўзабытае адчуванне Волі ў дзяцінстве, калі дрэвы, травы, нябёсы, Зямля і прамень мае чалавечае думкі ўзвышаліся ў Суладдзе.**

**Незалежнасць — гэта... Гэта калі дыханне маё, Бацькаўшчыны, каханага ў адным узлётным парыванні лучыць нас усіх у Адно і ўзносіць у гісторыю, у Вечнасць. Калі каралюе Гармонія — у душы, у прыродзе, у дзяржаве — і Жыццё адкрываецца ўрачыстым святам, удзячным паломніцтвам да продкаў, да Роду, да вытоку, да ўсіх святых, што апякуюцца нашымі шляхамі».**

### *ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ*

Дзень Усіх Незалежных —
толькі прыгаршча нас.
На старым узбярэжжы
Зніч яшчэ не загас.

Дзень Усіх Незалежных —
звар'яцелых? Святых?
І стаім на сумежжы
Я, Радзіма і ты.

Дзень Усіх Незалежных
у Краіне маны,
дзе пудліва на вежах
пазмаўкалі званы.

Дзень Усіх Незалежных.
У нявольніцы баль.
Пад лістотнай мярэжай
барацьба і кляцьба.

Дзень Усіх Незалежных.
У бязвер'і — давер.
Брамы нам разнасцежыў
белы свет напавер.

Дзень Усіх Незалежных.
Дзе Купалаў пасад? —
пуцявінаў разбежжа,
успамінаў краса...

Дзень Усіх Незалежных.
Свята жменькі святых...
За жывых і памерлых
на сівой набярэжнай
я, Айчына і ты.

# СВЯТА СУВЕРЭНІТЭТУ Ў ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Я лічу, што Дзень Незалежнасці павінен заняць больш важнае месца, чым было да гэтага часу. Неяк нас апошнім часам пачалі пераконваць, што гэты дзень быццам бы сімвалізуе нашу незалежнасць ад Расіі. Але гэта зусім не так. 27 ліпеня сімвалізуе самастойнасць Беларусі як краіны, якая самастойна можа вырашаць усе свае праблемы.

**Анатоль Лашкевіч, сакратар цэнтральнага камітэта Партыі камуністаў Беларусі:**

— Наогул лічу спрэчным пытанне аб нашым суверэнітэце. Мы нават у межах былога СССР мелі ўласны суверэнітэт і як самастойны суб'ект міжнароднага права ўваходзілі ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый. Зараз у нас свае законы, свая Канстытуцыя. Можа мэтазгодна было б сёння ў якасці Дня Незалежнасці адзначаць Дзень Канстытуцыі? Увогуле, гэта вельмі складаныя пытанні. Я ніколі наконт іх не задумваўся. Шчыра кажучы, калі хтосьці хоча адзначаць 27 ліпеня як свята, няхай на здароўе адзначае. У нас і 7 лістапада — чырвоны дзень календара, але адны яго святкуюць, другія — не. Таму і з гэтым днём адбываецца тое ж самае.

**Віктар Івашкевіч, выканаўчы дырэктар навукова-аналітычнага цэнтра «Беларуская перспектыва»:**

— Вы, мусіць, хочаце спытаць пра Дзень суверэнітэту, паколькі для мяне Дзень Незалежнасці — гэта 25 сакавіка? Дзень суверэнітэту — рэальнае ўвасабленне ідэалаў менавіта 25 сакавіка. Пачуцці адносна яго самыя розныя і неадназначныя. Нам неабходна пераадолець шмат цяжкасцей, каб гэты дзень адзначаўся ў Беларусі, як, напрыклад, у той жа Чэхіі. Так, ён павінен заняць такое месца, каб большасць людзей лічыла яго сапраўдным святам.

**Сяргей Посахаў, памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь:**

— Дзень Незалежнасці асабіста для мяне асацыіруецца з датай 3 ліпеня — днём вызвалення Мінска і Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Ва ўсіх краінах гэтае свята не звязана з нейкім дакументам, няхай і самым высакародным, а з канкрэтнымі гістарычнымі падзеямі, якія мы называем заваёвай незалежнасці. Успомніце 4 ліпеня — дзень горада. Гэта сапраўды было свята, якім можна было ганарыцца, паколькі яно праходзіла па-еўрапейску. Мы паказалі, што з'яўляемся цывілізаваным, адукаваным, культурным еўрапейскім народам. А калі чуеш, што мы вось выйдзем дваццаць сёмага і пакажам вам, то сэрца ад такіх заяў сціскаецца. Тым не менш, 27 ліпеня прызнана дзяржаўным святам, і я лічу, што мы павінны яго адзначаць. Але я хацеў бы сказаць: усё залежыць ад таго, як мы будзем у бліжэйшыя гады святкаваць Дзень Незалежнасці, такі лёс і чакае гэтае свята. У нашым грамадстве гэты дзень павінен стаць днём прымірэння, святам нашага суверэнітэту, каб мы ўсе змаглі адчуць сябе грамадзянамі адзінай незалежнай дзяржавы. Гэта хутчэй не Дзень Незалежнасці, а свята суверэнітэту.

**Запісаў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# КОШТ ПРАДУКТАЎ: ІЗНОЎ СКАЧОК УГОРУ

**По словах работнікаў Камітэта цэн Мінэканомікі, апошнім часам з цэнамі творыцца нешта незразумелае: цэннікі змяняюцца ледзьве не штодзень. Вось і апошнія дні зноў не «абышлося» без чарговых «новаўвядзенняў».**

Віцебскі аблвыканком з 23 ліпеня падняў цэны на хлеб масавых гатункаў на 4 працэнты, белабулачныя вырабы — на 5—7 працэнтаў. Гэтая мера была выклікана павелічэннем з 18 ліпеня аптова-рознічных цэн на жытнюю (на 7—10 працэнтаў) і пшанічную (на 9 працэнтаў) муку. Такім чынам, у Віцебску бохан хлеба ўжо каштуе 2600 рублёў, батон — 3000 рублёў.

Адначасова загадам дырэктара Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі ад 15 ліпеня на падставе рэкамендацый «Белптушкапрома» павялічаны аптова-рознічныя цэны на птушку: за бройлераў 1 катэгорыі — 31.000, ІІ-й катэгорыі — 28.000 рублёў за кілаграм. Адпаведнае падняцце цэн адбылося і ў гандлі: кілаграм мяса птушкі тут ужо каштуе 37.800 замест ранейшых 35.400 рублёў (рост на 6,8 працэнта). Павелічэнне абумоўлена, у прыватнасці, ростам цэн на камбікармы (з 3950 рублёў за кілаграм у чэрвені да 4430 рублёў у ліпені).

У Брэсце за пазначаныя ж дні таксама павялічыліся рознічныя цэны на хлеб масавых гатункаў (на 8 працэнтаў), батоны першага гатунку (на 10 працэнтаў), што звязана зноў жа з цаной на муку, якая паднялася на вышэйшы і першы гатунак на 8,6 працэнта, другі гатунак — на 9,1 працэнта. Павелічэнне цэнаў на свініну ў гандлі (з 30.400 да 32.500 рублёў), каўбасу вараную (з 28.100 да 28.800 рублёў за кілаграм) тлумачыцца павелічэннем мінімальных закупачных цэн на свіней у сярэднім на 14 працэнтаў з 24 чэрвеня бягучага года.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па Беларусі будзе пераважна воблачна, у паўднёвых раёнах — невялікія дажджы. Тэмпература паветра ў Гомелі — 18—20, Брэсце — 19—21, Мінску, Магілёве, Віцебску і Гродне — 21—23 градусы цяпла. У наступныя двое сутак — воблачна з праясненнямі, пераважна без ападкаў. Толькі 28-га ўдзень на поўначы — кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ўначы 7—12, удзень 20—25, а на поўдні і зусім цёпла — да 28 градусаў.

*XXVI ЛЕТНІЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ*




# ШЧЭРБА ЗМОГ ЗАЧАПІЦЦА ТОЛЬКІ ЗА «БРОНЗУ»

Пяты дзень Алімпійскіх гульняў у Атланце не стаў для беларусаў «залатым», хоць мы і звязвалі свае надзеі з выступленнем у мнагабор'і Віталя Шчэрбы. На жаль, толькі «бронза». Але і яна дасталася мінчаніну, як кажуць, крывёю і потам. Пасля дзвюх дысцыплін: выступленняў на кані і кольцах Шчэрба наогул знаходзіўся на 11-м месцы. Аднак праявіўшы зайздросную здольнасць сабрацца на барацьбу, наш чэмпіён змог «выжаць» у апорным скачку, вольных практыкаваннях, на брусах і перакладзіне максімум і зачапіцца за «бронзу». Дарэчы, у гэтых чатырох дысцыплінах «зорка» беларускай гімнастыкі выступіць у спаборніцтвах на асобных снарадах. Так што Шчэрба яшчэ мае сур'ёзны намер дабіцца поспеху.

Выбылі з далейшай барацьбы нашы бадмінтаністкі — Улада Чарняўская і Міхаіл Каршук, прайграўшы адпаведна прадстаўнікам Інданезіі і Германіі. Такі ж лёс напаткаў і маладую беларускую тэнісістку Вольгу Барабаншчыкаву, якая ўступіла вядомай французскай «ракетцы» Мары Пірс. Парадавалі баксёры. Віцябчанін Сяргей Быкоўскі (63,5 кг) на першым этапе абыграў грузінскага баксёра. Усяго чатыры майстры скуранай пальчаткі Беларусі працягваюць барацьбу за медалі. Акрамя Быкоўскага, гэта Вадзім Мезга (67 кг), Сяргей Дычкоў (91 кг) і Сяргей Ляховіч (звыш 91 кг).

***ВЫНІКІ ПЯТАГА ДНЯ СПАБОРНІЦТВАЎ:***

**24 ліпеня (разыграна 14 камплектаў узнагарод)**

**● СТРАЛЬБА**

***Стандартная малакаліберная вінтоўка. З трох становішчаў. Жанчыны.***

1. Аляксандра Івосеў (Югаславія)
2. Ірына Герасімёнак (Расія)
3. Рэйната Маўэр (Польшча)

**17. Ірына Шылава (Беларусь)**
**18. Вольга Паграбняк (Беларусь)**

***Стэндавая «Дабл-трэп». Мужчыны***

1. Расел Марк (Аўстралія)
2. Альбана Пера (Італія)
3. Чжан Бін (Кітай)

**● ВЕЛАСПОРТ**

***Гіт з месца на 1000 метраў. Мужчыны.***

1. Фларыян Русо (Францыя)
2. Эрын Хартуэл (ЗША)
3. Таканобу Юмоідзі (Японія)

**● КОННЫ СПОРТ**

***Трохбор'е. Камандныя спаборніцтвы.***

1. Аўстралія
2. ЗША
3. Новая Зеландыя

**● ГІМНАСТЫКА СПАРТЫЎНАЯ**

***Мнагабор'е. Мужчыны.***

1. Лі Сяошуань (Кітай)
2. Аляксей Немаў (Расія)

**3. Віталь Шчэрба (Беларусь)**
**30 Андрэй Кан (Беларусь)**
**31. Віталь Рудніцкі (Беларусь)**

**● ДЗЮДО**

***Вагавая катэгорыя да 56 кг. Жанчыны***

1. Дрыліус Гансалес (Куба)
2. Юнг Сун-Йонг (Карэя)
3. Марысабель Ломба (Бельгія)
   Ісабель Фернандэс (Іспанія)

***да 71 кг. Мужчыны.***

1. Кенда Накамура (Японія)
2. Квак Дэ-Сунг (Карэя)
3. Крыстаф Гальяна (Францыя)
   Джымі Педра (ЗША)

**● ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА**

***Вагавая катэгорыя да 76 кг***

1. Пабла Лара (Куба)
2. Йота Йотаў (Балгарыя)
3. Чол Йон (КНДР)

**9. Леанід Лабачоў (Беларусь)**
**11. Алег Кечко (Беларусь)**

**● ФЕХТАВАННЕ**

***Шпага. Камандныя спаборніцтвы. Жанчыны***

1. Францыя
2. Італія
3. Расія

***Шабля. Камандныя спаборніцтвы. Мужчыны.***

1. Расія
2. Венгрыя
3. Італія

**● ПЛАВАННЕ**

***200 м брас. Мужчыны.***

1. Норберт Рожа (Венгрыя)
2. Карой Гутлер (Венгрыя)
3. Андрэй Корнеў (Расія)

**19. Аляксандр Гукаў (Беларусь)**

***100 м батэрфляй. Мужчыны.***

1. Дзяніс Панкратаў (Расія)
2. Скот Мілер (Аўстралія)
3. Уладзіслаў Кулікоў (Расія)

***200 м комплекс. Жанчыны***

1. Мішэль Сміт (Ірландыя)
2. Марыян Лімперт (Канада)
3. Лі Лінь (Кітай)

***Камбінаваная эстафета 4х100 м. Жанчыны.***

1. ЗША
2. Аўстралія
3. Кітай

Учора на XXVI Алімпійскіх гульнях праходзілі спаборніцтвы па 21 віду і разыгрывалася 13 камплектаў узнагарод.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*САЦЫЯЛОГІЯ*

# Чаму аддаюць перавагу прыхільнікі і праціўнікі суверэнітэту

**Праблема суверэнітэту – адна з цэнтральных палітычных праблем сучаснай Беларусі, і яна, зразумела, не можа не быць у цэнтры ўвагі любога публічнага палітыка. Як правільна адзначыў у сваім артыкуле доктар сацыялагічных навук С. Шавель, у беларускім грамадстве назіраецца, з аднаго боку, расслаенне насельніцтва па пытанню аб суверэнітэце Беларусі, з другога — супярэчлівасць у адказах у большай частцы рэспандэнтаў.**

У ходзе агульнанацыянальнага апытання дарослага насельніцтва Беларусі, праведзенага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) у маі—чэрвені 1996 г. (апытана 1525 чалавек, памылка выбаркі — 3 працэнты) у рамках праекта «Фарміраванне грамадскіх лідэраў у посткамуністычнай Беларусі», былі зададзены тры пытанні, якія датычалі праблем незалежнасці нашай краіны: «Ці хочаце Вы, каб Беларусь была незалежнай дзяржавай?», «Ці хацелі б Вы аднаўлення СССР?» і «Ці хацелі б Вы, каб Беларусь і Расія аб'ядналіся ў адну дзяржаву?».

Згодна з атрыманымі данымі, 21,3 працэнта апытаных можна аднесці да паслядоўных прыхільнікаў суверэнітэту Беларусі (адказалі «так» на першае пытанне і «не» на другое і трэцяе пытанні); прыкладна столькі ж — 25,3 працэнта — з'яўляюцца яго паслядоўнымі праціўнікамі. Аднак большасць рэспандэнтаў (53,4 працэнта) трапляюць у прамежкавую групу, выступаючы адначасова і за незалежнасць Беларусі, і за яе страту. Ці ёсць адрозненні паміж гэтымі трыма групамі насельніцтва?

Звернемся спачатку да асноўных сацыяльна-дэмаграфічных характарыстык. Як бачна з табл. 1, сярод паслядоўных прыхільнікаў суверэнітэту Беларусі доля маладых людзей ва ўзросце да 30 гадоў больш чым у 2 разы вышэйшая, чым сярод яго паслядоўных праціўнікаў. Яшчэ больш кантрасная карціна назіраецца па адукацыйнаму ўзроўню: у першай групе асоб з вышэйшай адукацыяй амаль у 3 разы больш, чым у другой. Насупраць, сярод паслядоўных праціўнікаў незалежнасці Беларусі высокая ўдзельная вага старых людзей, больш за 40 працэнтаў маюць узровень адукацыі да 8-мі класаў. Цікава адзначыць, што жанчын у гэтай групе амаль у 2 разы больш, чым мужчын. Што датычыцца месца жыхарства, то тут, за выключэннем сталіцы, адрозненні паміж прыхільнікамі і праціўнікамі суверэнітэту невялікія. Прамежкавая група па сваіх сацыяльна-дэмаграфічных характарыстыках вельмі блізкая да групы паслядоўных праціўнікаў незалежнасці Беларусі.

Паслядоўныя прыхільнікі незалежнасці Беларусі характарызуюцца ярка выяўленымі рыначнымі арыентацыямі. Так, прыхільнікаў рыначнай эканомікі сярод іх у 2 разы больш, чым сярод прадстаўнікоў другой групы — праціўнікаў суверэнітэту.

Што датычыцца прамежкавай групы, то яе прадстаўнікі ў сярэднім не настолькі рыначна настроены, як паслядоўныя прыхільнікі суверэнітэту, аднак прыхільнікаў капіталізму, рыначнай эканомікі і прыватнай уласнасці сярод іх значна больш, чым сярод тых, хто яўна выступае супраць незалежнасці Беларусі.

**Адносіны насельніцтва да суверэнітэту Беларусі: сацыяльна-дэмаграфічныя характарыстыкі (у % да выніку па слупку)**

| Узрост, гадоў | Паслядоўныя прыхільнікі суверэнітэту | Паслядоўныя праціўнікі суверэнітэту | Прамежкавая група |
|---|---|---|---|
| Да 30 | 45,1 | 20,3 | 23,0 |
| 30--49 | 36,7 | 32,4 | 39,3 |
| 50 і больш | 18,2 | 47,3 | 37,7 |
| **Пол** | | | |
| Мужчыны | 52,5 | 34,1 | 42,0 |
| Жанчыны | 47,5 | 65,9 | 58,0 |
| **Адукацыя** | | | |
| Вышэйшая, уключаючы незакончаную | 24,5 | 8,6 | 12,7 |
| Тэхнікум, сярэдняе спец. вучылішча | 20,0 | 18,5 | 19,7 |
| Сярэдняя школа, праф.-тэх. вучылішча | 45,5 | 31.0 | 37,4 |
| Да 8-мі класаў сярэдняй школы | 6,7 | 19,7 | 13,8 |
| Да 4-х класаў сярэдняй школы | 3,3 | 22,2 | 16,5 |
| **Месца жыхарства** | | | |
| Горад | 76,7 | 71,4 | 69,2 |
| у тым ліку Мінск | 26,8 | 13,8 | 16,0 |
| Вёска | 23,3 | 28,6 | 30,8 |

Аналіз таксама паказвае, што прадстаўнікі ўсіх выдзеленых намі груп насельніцтва ў той ці іншай меры ўцягнуты ў недзяржаўную эканамічную дзейнасць (ад стварэння ўласнага прадпрыемства да элементарнага перапродажу тавараў), аднак сярод паслядоўных прыхільнікаў суверэнітэту Беларусі такіх амаль на 60 працэнтаў больш, чым сярод яго праціўнікаў. Магчыма, гэтым тлумачацца некаторыя адрозненні ў матэрыяльным становішчы трох груп: калі сярод паслядоўных прыхільнікаў суверэнітэту ацанілі свой матэрыяльны стан як сярэдні больш за 48 працэнтаў, то сярод яго праціўнікаў — толькі каля 29 працэнтаў.

У цэлым мы назіраем вельмі цікавую сітуацыю. З аднаго боку, людзі, якія выступаюць супраць эканамічных рэформаў, хочуць вяртання СССР і, што самае цікавае, жадаюць аб'яднання ў адзіную дзяржаву з Расіяй — краінай, якая актыўна праводзіць рыначныя рэформы. З другога боку, большасць прыхільнікаў незалежнасці Беларусі з'яўляюцца прыхільнікамі рыначнай эканомікі.

Адстойванне дзяржаўнай незалежнасці для многіх — гэта імкненне свабодна жыць у свабоднай суверэннай дзяржаве. Паслядоўныя прыхільнікі суверэнітэту Беларусі ў цэлым з'яўляюцца найбольш маладой, дынамічнай і эканамічна актыўнай часткай нашага насельніцтва. Будучыня Беларусі і дабрабыт усяго нашага народа ў многім будуць залежаць менавіта ад гэтых людзей.

**Апытанне праведзена Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў.**

## АДНОЙ АГАРОДНІНАЙ СЫТЫ НЕ БУДЕШ...

**Рознічныя цэны на харчовыя тавары на Камароўскім рынку г. Мінска на 25.07.96 г.**

**Мяса (кг):**
свініна 33--60
ялавічына 30--55
куры 29--30
сала свежае 24--33
сала салёнае 25--45

**Малочныя прадукты:**
малако (л) 6-8
тварог (кг) 18--30
смятана (кг) 22--26
масла 40--45

**Яйкі птушкафабрыкі (1 дзес.)** 8,6--11,2
**яйкі хатнія** 16--18
**алей** 13--15
**цукар** 8,4--9
**мёд** 70--80

**Агародніна (кг):**
капуста свежая 7-8
морква 6--10
агуркі свежыя 7-8
таматы 15--17
цыбуля рэпчатая 7--10
цыбуля зялёная 6--10

Заўсёды прыемна канстатаваць падзенне цэн на харчовыя тавары. Аднак, на фоне поўнага абвалу цэн на агародніну, якая значна патаннела ў апошні час у сярэднім на 5--10 тыс, на кожны яе від, цэны на мяса на сталічным Камароўскім рынку працягваюць паўзці ўверх: свініна за апошні тыдзень падаражэла на 3 тыс. руб., ялавічына і цяляціна -- на 5 тыс. руб., свежае сала -- на 3 тыс. руб. Падаражэлі таксама тварог (на 5 тыс. руб.) і яйкі (на 1 тыс. руб.) Падскочылі нават цэны на мёд (на 10 тыс руб), якія стаялі на месцы на працягу года.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## Пятніца, 2 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны
**8.15** «Сола для сабакі». Дак. фільм.
**8.30** «Бархатны сезон». Музычна-забаўляльная праграма.
**9.00** «Залаты ключык». Маст. фільм.
**10.15** Студыя «Калыханка». «Мульціклуб».
**10.45** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». Тэлесерыял (Аўстрыя—Германія). 19-я серыя.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей.
**15.40** «Прыгоды ў замку «Алфавіт». Музычны спектакль дзіцячага тэатра «Казка».
**17.00** Канцэртны сезон. Спявае Таццяна Цівунова.
**17.25** Кантрасты. Прававая праграма. «Крапавыя берэты». Перадача 1-я.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** Тэлеанонс.
**18.05** «Яўген Вахтангаў». Дак. фільм.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага».
**20.00** Тэлеанонс.
**20.05** «Міжнародны кур'ер». Падзеі, факты, каментарыі.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Спартыўны тэлекур'ер.
**22.10** Музычны антракт.
**22.20** Кампанія «Цэптэр» прадстаўляе: «Труфальдзіна з Бергама». Тэлевізійны маст. фільм. 1-я серыя.
**23.30** «12, ці На ноч гледзячы».
**23.50** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.
**0.20** Навіны.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца.
**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.35** Навіны.
**8.15** «Новая ахвяра».
**9.10** Дзіўныя гісторыі ў праграме «Мая сям'я».
**9.45** Грай, гармонік любы!
**10.25** Пакуль усе дома.
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». Ад пятніцы да пятніцы. Займальныя сюжэты з краін Садружнасці.
**11.55** Алімпійкія гульні ў Атланце. Лёгкая атлетыка. Фіналы. Хакей на траве. Жанчыны. Фінал. Футбол. Жанчыны. Фінал. Конны спорт. Фінал.
**14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца».
**14.40** Марафон-15.
**15.00** До-мі-соль.
**15.20** «Элен і хлопцы».
**15.50** Алімпійскія гульні ў Атланце: падзеі дня.
**17.20** «Новая ахвяра».
**18.15** Чалавек і закон.
**18.45** Поле цудаў.
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.35** Праграма перадач.
**20.40** Міхай Валанцір у баевіку «У зоне асаблівай увагі».
**22.45** Алімпійскія гульні ў Атланце. Лёгкая атлетыка. Хадзьба. 50 км. Мастацкая гімнастыка. Фінал.

### «Расія»

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 0.35** Весткі.
**8.25** «Санта-Барбара».
**9.20** Алімпіяда-96. Настольны тэніс. Фінал.
**9.55** Тавары — поштай.
**10.20** Гандлёвы дом. «Ле Монці».
**10.35—12.40** Алімпіяда-96. Бокс. 1/2 фіналу.
**16.20** Музыка ўсіх пакаленняў.
**16.35** Залежыць ад цябе.
**16.50** «Чэленджэрс». Серыял.
**17.20** Мой Кроха і я.
**17.30** Алімпіяда-96. Валейбол. Жанчыны. 1/2 фіналу.
**18.30** Вертыкаль.
**19.35** Алімпійскі кур'ер.
**20.05** «Санта-Барбара».
**21.00** Надвор'е на заўтра.
**21.05** «Субота, нядзеля, панядзелак». Маст. фільм (Італія). 4-я серыя.
**22.10** Алімпіяда-96. Вольная барацьба. Тэніс.
**0.50--1.42** Праграма «А».

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 12.55, 13.55, 16.55, 18.55, 21.55** Інфарм ТБ.
**12.05** «Першае каханне». Серыял.
**13.10** Тэрмін адказу — сёння.
**13.40** Парады садаводам.
**14.05** Дэтэктыў на тэлеэкране. «Шпік» (Швецыя). 4-я серыя.
**15.00** «Маклер». Маст. фільм (Узбекістан).
**16.10** «З кірмашу». Тэлефільм.
**16.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі.
**17.05** «Філасофія па Філу». Серыял.
**17.30** Стыль жыцця.
**17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.20** «Першае каханне». Серыял.
**20.10** Без назвы. Гумарыстычная праграма.
**20.55** Спартыўны агляд.
**21.05** Дэтэктыў на тэлеэкране. «Шпік» (Швецыя). 4-я серыя.
**22.15—0.08** «Трамвай «Жаданне». Маст. фільм (ЗША).

### «Расійскія універсітэты»

**10.30** СІВ. Навіны.
**10.40** Англійская мова для дзяцей.
**11.00** «Ну, пачакай!» Выпуск 8-ы.
**11.10** «Чэмпіён». Тэлевізійны дак. фільм пра першага расійскага чэмпіёна свету па пауэрліфтынгу (цяжкая атлетыка) А. Лякомцава.
**11.30** У рабочы поўдзень.
**12.00** «Пяць хвілін».
**12.05** Планета «Здароўе».
**12.30** Чалавек у рыначнай эканоміцы.
**13.00** «Насустрач сонцу». Дак. фільм.
**13.25** СІВ. Навіны.
**13.30** «Жыццё Кліма Самгіна» Маст. фільм. 14-я серыя.
**14.35** Тэатр аднаго мастака. К. Сомаў.
**15.00** Алімпіяда-96. Гандбол. Жанчыны. 1/2 фіналу.
**16.00** Музычныя навіны.
**16.15** «Муззон».
**16.45** СІВ. Навіны.

### НТБ

**17.00** Дак. фільм «Дзікая прырода: барацьба за жыццё». 9-я серыя. (Вялікабрытанія).
**18.30** Жаночыя гісторыі. «Каханне і нянавісць». 3-я серыя (Канада).
**18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**18.35** Дак. фільм «Імкненне да нябёсаў: гісторыя авіяцыі». 15-я серыя (ЗША).
**19.00** «Беражыся аўтамабіля!» Маст. фільм.
**20.35** Кароткаметражны фільм «Вяселле».
**21.00** «Сёння».
**21.35** Алімпійская гадзіна з Рускага дома.
**22.30** Часінка.
**23.00** «Сёння».
**23.20** Свет кіно. Джэф Голдблум і Мішэль Пфайфер у фільме Джона Лэндзіса «Уначы» (ЗША).
**1.15** Начны канал. Эратычныя шоу свету.



## Субота, 3 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

**8.00** Навіны.
**8.15** «Чым багаты...» Вытворчае аб'яднанне «Гомсельмаш».
**8.30** «Сугучнасць». Перадача з Брэста.
**8.50** Здароўе. «Карысныя парады».
**9.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**9.50** «Усё пра ўсё». Інфармацыйна-пазнавальная праграма.
**10.15** «Ералаш». Гумарыстычны часопіс.
**10.35** «Брэменскія музыкі», «Па слядах Брэменскіх музыкаў». Мультфільмы.
**11.15** «Беларускія алімпійцы». Дак. фільм.
**12.10** І. Чыгрынаў. «Госці». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.
**13.15** Шматгалоссе. «Скарбонка талентаў».
**13.40** Еўрапейская дваццатка. Музычная праграма MTV.
**14.25** Майстэрня. Беларуская акадэмія мастацтваў.
**14.35** Канцэртны сезон. Алег Цівуноў: «А я кахаю...»
**15.15** Тэлевізійны АРТ-клуб. «Падарожжа ў Эдынбургскае лета». Відэафільм. 1-я серыя.
**16.00** Свет прыроды і захапленняў.
**16.50** «Запрашаем на вячоркі». Абрад «Перанос свечкі» ў вёсцы Касцюшкавічы Крычаўскага раёна.
**17.25** Беларускі дом. Спадчына.
**17.50** Тэлевізійны Дом кіно. Прэм'ера кароткаметражнага маст. фільма студыі Уладзіміра Галынскага «Прывітанне ад цёзкі».
**18.30** Галерэя. Эканаміст-экстрасенс Ігар Фількевіч. Аўтарская праграма Таццяны Ягоравай.
**19.00** Па вашых просьбах. Маст. фільм рэжысёра Віктара Турава «Пункт адліку».
**20.40** Калыханка.
**21.00** Навіны.
**21.45** Спартыўны тэлекур'ер.
**22.00** «Труфальдзіна з Бергама». Тэлевізійны маст. фільм. 2-я серыя.
**23.10** Відзьма-нявідзьма.

### ГРТ

**7.00** Вясёлыя гісторыі ў часопісе «Ералаш».
**7.20** Мікалай Бурляеў у камедыі «Сямейнае шчасце».
**8.45** Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл.
**9.00, 14.00, 17.00** Навіны.
**9.15** Не зявай!
**9.45** Ранішняя пошта.
**10.20** Смак.
**10.40** «Цудоўны град Масква». Фільм 1-ы «Златагаловая сталіца».
**11.10** Алімпійскія гульні ў Атланце. Тэніс. Мужчыны. Пары. Фінал. Сінхроннае плаванне. Фінал. Хакей на траве. Мужчыны. Фінал. Бокс. Паўфінал.
**14.30** Цыганскія напевы.
**15.00** У свеце жывёл.
**15.40** Хутчэй, вышэй, мацней у мультыплікацыйным фільме «Зоалімпіяда».
**17.25** Алімпійскія гульні ў Атланце: падзеі дня.
**18.15** «Залатая серыя». Год 1968-ы. «Сем старых і адна дзяўчына».
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.35** Праграма перадач.
**20.40** Заключная серыя. «Дэтэктыўнае агенцтва «Месяцавае святло».
**21.45** Алімпійскія гульні ў Атланце. Бокс. Фіналы. Веславанне. Фіналы. Конны спорт. Фінал.

### «Расія»

**7.00, 13.00, 19.00, 0.35** Весткі.
**7.45** «Элі і Джулс». Маст. фільм.
**8.15** Навінкі ад ТВ медыа.
**8.30** Па вашых пісьмах.
**9.00** Алімпіяда-96. Вольная барацьба.
**10.00** Весткі ў адзінаццаць.
**10.15** Кніжная лаўка.
**10.30** Алімпіяда-96. Лёгкая атлетыка.
**12.30** Прасцей простага.
**13.20** «Гэй, вухнем!» Фальклорны фестываль.
**13.35** Дэ-факта.
**14.05** «Акіян». Маст. фільм.
**15.00** «Твар з вокладкі». В. Сюткін.
**15.20** Бясконцае падарожжа.
**16.00** Алімпіяда-96. Валейбол. Мужчыны. 1/2 фіналу. Маст. гімнастыка.
**18.25** Алімпійскі кур'ер.
**19.35** Любімыя камеды. «Прыватны дэтэктыў, ці Аперацыя «Кааперацыя». Маст. фільм.
**21.05** Надвор'е на заўтра.
**21.10** Алімпіяда-96. Веласпорт. Валейбол. Жанчыны. Фінал. Тэніс. Мужчыны. Фінал. У перапынку — Весткі.
**0.50--2.15** Суботні вечар з В. Дабрыніным.

### Санкт-Пецярбург

**9.35** «Прымірэнне». Тэлеспектакль цыкла «Уік-энд з дэтэктывам».
**10.05** «Гонар маю». Ваенны агляд.
**10.25** Непазнанае.
**10.55, 12.55, 18.55** Інфарм ТБ.
**11.10** Ток-шоу «Наўздагад». Гары Каспараў.
**11.40** Мы і банк.
**12.15** Яшчэ адна Расія.
**12.40** Старое танга. Іаган Штраус.
**13.10** «Начальнік Чукоткі». Маст. фільм (Расія).
**14.40** Скарбы Пецярбурга. Эрмітаж. «Блакітнае і ружовае Дэга».
**14.55** Ва ўсіх на вачах.
**15.20** Парадоксы гісторыі. Помста паэта.
**15.50** Хіт-парад хуліганаў. «Адчайныя».
**16.20** «Іржавыя правады». Рок-фестываль у Паўлаўску.
**16.55** Спартыўны агляд.
**17.05** «Казка пра рыбака і рыбку». Мультфільм.
**17.35** «Скрыжаванні нашых дарог». Музычная праграма, прысвечаная юбілею ДАІ.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.25** «Праклён балотнага стварэння». Маст. фільм (ЗША).
**20.40** «Рамантычныя мініяцюры». Музычны фільм.
**20.55** Свецкая хроніка.
**21.10** Блеф-клуб.
**21.50** «Тэлекампакт». Музычнае шоу.
**22.35—23.58** С. Радзівонаў. «Крымінальны талент». Тэлеспектакль. 1-я частка.

### «Расійскія універсітэты»

**8.00** У манастыры Іосіфа Валоцкага.
**8.30** «Людзі і расліны». Тэлевізійны дак. серыял (Францыя). Фільм 5-ы. «Спарыння».
**9.00** Тэлегазета.
**9.05** Домаўладальнік.
**9.20** Сем Я.
**9.35** Пенсіён.
**9.40** Патрэбныя рэчы.
**10.00** Алімпійскі кур'ер.
**10.30** Медыцына для Вас.
**10.55** Часопіс часопісаў.
**11.05** Сіла духу.
**11.35** Прафесіянал.
**11.55** Спяваю для Вас... Наталі.
**12.00** Інфармацыйны агляд.
**12.20** «На дарогах Расіі». Па зводках ДАІ РФ.
**12.25** «Малыш і Карлсан». Мультыплікацыйны фільм.
**12.45** Эканамічны агляд.
**13.10** «З паўслова». Тэлегульня.
**13.40** Інфармацыйны агляд.
**14.00** Каталонскі эцюд. Кампазітар Леанора Міла.
**14.30** Крок з круга.
**14.50** «Кантакт». Мультыплікацыйны фільм.
**15.00** Алімпіяда-96. Скачкі ў ваду. 10 м. Мужчыны. Стральба з лука.
**16.00** Інфармацыйны агляд «Навіны кіно».
**16.25** Ток-шоу «Кар'ера».

### НТБ

**17.00** Мультсерыял «Дыназаўрык па імені Дзінк». 20-я серыя (ЗША).
**17.30** РЕН-ТБ прадстаўляе: «Догшоу. Я і мой сабака».
**18.00** «Сёння».
**18.30** Свет кіно. Роберт Дэ Ніро і Чарльз Гродзін у фільме Марціна Брэста «Паспець да паўночы». (ЗША).
**20.45** Лялькі.
**21.00** «Сёння».
**21.35** Алімпійская гадзіна з Рускага дома.
**22.30** Свет кіно. «Кракадзіл-забойца» (Італія—ЗША).
**0.00** Трэцяе вока.
**0.45** Начны канал. «Плейбой».



## Нядзеля, 4 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

**8.00** «Як не любіць мне гэтую зямлю». Фільм-канцэрт.
**8.30** «Кола часу». Жнівень. Гістарычны каляндар.
**9.00** «Конан». Мультсерыял (ЗША). 32-я серыя.
**9.25** Пра шахматы і шахматыстаў.
**9.45** Лепшыя хіты MTV.
**10.15** Усё нармальна, мама! Забаўляльная праграма.
**10.45** Тураб'ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
**11.05** Студыя «Акно». «Ільецца вершаў запаведная рака».
**11.45** Я. Купала. «Па шчасце, па сонца». Тэлеспектакль.
**12.55** Аўта-парк.
**13.10** «Усе мы родам з дзяцінства». Другі Усебеларускі тэлефестываль юных талентаў. Фінал.
**14.10** Вяскоўцы. Эксперыментальная база «Жодзіна».
**14.40** Тэлевізійны АРТ-клуб. «Падарожжа ў Эдынбургскае лета». 2-я серыя.
**15.10** Таямніцы свету. «Дзікі поўдзень». Навукова-папулярны серыял (Новая Зеландыя). 26-я серыя.
**15.40** Вяршыня свету. Тэлегульня.
**16.10** «Віншуем Вас!» Музычная праграма да Дня чыгуначнікаў.
**17.05** Тэатр у фатэлі.
**17.45** Абібок.
**18.15** Па вашых просьбах. Мікалай Карачанцаў у тэлевізійным мастацкім фільме «Маленькая паслуга».
**19.40** Калыханка.
**20.00** Рэзананс.
**20.50** Спартыўны тэлекур'ер.
**21.05** Навіны-ТБ.
**21.20** Ток-шоу «Карамболь» з удзелам Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Вялікабрытаніі Джэсікі Пірс.
**21.50** «Бархатны сезон». Музычна-забаўляльная праграма.
**22.25** «Сінема». Нік Нолце і Грэта Скакі ў маст. фільме «Джэферсан у Парыжы» (ЗША, Вялікабрытанія).

### ГРТ

**7.00** Тыраж «Спортлато».
**7.10.** «Ералаш».
**7.20** Зіновій Гердт і Георгій Віцын у камедыі «Крок з даху».
**8.45** «Бесталковыя нататкі» Дзм. Крылова.
**9.00, 14.00, 22.35** Навіны.
**9.15** Пакуль усе дома.
**9.50** Ранішняя зорка.
**10.40** Алімпійскія гульні ў Атланце. Тэніс. Жанчыны. Пары. Фінал. Лёгкая атлетыка. Фіналы.
**13.25** Смехапанарама. Вядучы — Я. Петрасян.
**14.20** Клуб падарожнікаў.
**15.10** Неяк раз.
**15.20** Мульфеерверк: «Прыгоды Вудзі і яго сяброў», «Амерыканскі хвост».
**16.05** Шчаслівы выпадак.
**16.50** Алімпійскія гульні ў Атланце. Баскетбол. Мужчыны. Фінал.
**19.00** Час.
**19.35** Праграма перадач.
**19.40** Луі дэ Фюнес і Жан Габен у камедыі «Джэнтльмен з Эпсана».
**21.25** Футбол. Міжнародны турнір. Фінал. Перадача з Уладзікаўказа.
**22.45** Алімпійскія гульні ў Атланце. Веславанне. Фіналы. Мастацкая гімнастыка. Фінал. Марафон. Мужчыны. Гандбол. Мужчыны. Фінал.

### «Расія»

**7.45** «Элі і Джулс». Маст. фільм.
**8.15** Вуснамі дзіцяці.
**8.45** Чалавек на Зямлі.
**9.15** Алімпіяда-96. Гандбол. Жанчыны. Фінал.
**10.15** Рускае лата.
**10.55** Алімпіяда-96: Футбол. Фінал. Гандбол. Жанчыны. Фінал.
**13.00, 19.00** Весткі.
**13.20** Кніжная лаўка.
**13.45** Прасцей простага.
**14.15** «Акіян». Маст. фільм.
**15.10** Караоке па-руску.
**15.30** У свеце жывёл.
**16.00** Імперыя гульняў. «Ноч у замку».
**17.00** Чароўны свет Дыснея. «Кранугы», «Аладзін».
**17.55** Алімпіяда-96. Конны спорт.
**18.25** Алімпійскі кур'ер.
**19.30** Надвор'е на заўтра.
**19.35** К-2 прадстаўляе: Юлій Кім у праграме «Фрак народа».
**20.15** У Ксюшы.
**20.45** Рэк-тайм.
**21.00—2.15** Алімпіяда-96. Конны спорт. Фінал. Бокс. Фінал. Валейбол. У перапынку — Весткі.

### Санкт-Пецярбург

**10.20** Стыль жыцця.
**10.35** Увесь гэты цырк.
**10.55, 12.55, 14.55, 18.55, 20.55** Інфарм ТБ.
**11.10** Асабістая справа. А. Кузін.
**11.40** Яшчэ адна Расія.
**12.40** Мультфільм.
**13.05** «Дракон на сцяжынцы». Прэм'ера маст. фільма.
**14.35** «Валідуб». Мультфільм.
**15.10** Мелодыі белай ночы.
**15.55** Прасцэніум. Тэатр пад кіраўніцтвам А. Табакова. «Смяротны нумар».
**16.20** Сем пятніц на тыдні.
**16.30** Паласатая музыка.
**16.50** Дзецям пра зверанят.
**17.10** А. Шульгіна. «Дыялогі аб уладзе». Тэлеспектакль.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.25** «Дзіўныя мужчыны Сямёнавай Кацярыны». Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.
**21.55** Міжнародны агляд.
**22.30—23.44** С. Радзівонаў. «Крымінальны талент». Тэлеспектакль. 2-я частка.

### «Расійскія універсітэты»

**8.00** Дотык.
**8.30** Ключавы момант.
**8.40** Дамавы Ралан Быкаў.
**9.00** Грош у квадраце.
**9.30** Карысныя парады.
**9.50** Тэлегазета.
**9.55.** Пенсіён.
**10.00** Алімпійскі кур'ер.
**10.30** «Бурда модэн» прапануе...
**11.00** Сямейны канал.
**12.00** Гумарыста выклікалі?
**12.15** «Пра бязумнае каханне снайпера і касманаўта». Маст. фільм.
**13.35** Графаман.
**13.45** «Церамок». Мультыплікацыйны фільм.
**14.15** Пад'ём пераваротам.
**14.45** Кіназорка. Армен Джыгарханян.
**15.25** Пра гарэлку.
**16.25** Дывертысмент.
**17.00** Кінатэатр юнага гледача. «Паліцэйскі Кэтс і ягоны сабака». 44-я серыя, заключная (ЗША).
**17.30** Тэлегульня «Сто да аднаго».
**18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**18.30** Летні кінатэатр. Уладзімір Шавялькоў у фільме «Поезд па-за раскладам».
**20.00** Вынікі.
**21.10** Алімпійская гадзіна з Рускага дома.
**22.10** Свет кіно. Маст. фільм «Кракадзіл-забойца-2» (Італія, ЗША).



# СТЫЛЬНЫ КУТОК

*Наўрад ці я адкрыю штосьці новае, калі скажу, што валасы — гэта самае цудоўнае ўпрыгожанне жанчыны. Але дастаткова паглядзець вакол, каб упэўніцца: далёка не кожную яны ўпрыгожваюць. Уменне падабраць прычоску — справа нежартоўная: займае даволі вялікі час. Зараз жанчыне прапануецца свабода і магчымасць выбару сярод вялікай, вельмі вялікай колькасці прычосак. «Стыльны куток» пазнаёміць вас сёння з гарачымі напрамкамі ў дызайне валасоў і раскажа пра самых модных жанчын, у жыцці якіх валасы адыгрываюць не апошнюю ролю.*

## ДЫЗАЙН ВАЛАСОЎ

**Дызайн валасоў — від мастацтва, дзе матэрыялам замест фарбаў, мармуру або гліны з'яўляюцца валасы. Для многіх жанчын цырульнікі — богі, ад якіх залежыць знешні выгляд, а гэта ж для жанчыны галоўнае! Цырульнік павінен не проста прычасаць жанчыну, але знайсці і падкрэсліць у ёй усе яе прывабныя якасці. Валасы — гэта рама для твару, гавораць французы, дасканалыя майстры цырульніцкай справы. І дадаюць: добры малюнак у таннай рамцы страчвае сваю каштоўнасць.**

Як жа выбраць дастойную аправу для свайго твару? На пытанне, як гэта зрабіць, можа адказаць Арланда Піто — самы вядомы стыліст прычосак. Ён дакранаецца да чароўных галовак вядучых мадэлек свету. Майстар ужо увайшоў у гісторыю цырульніцкай справы, а ў кнізе «Hair style» («Стыль валасоў») яму належыць галоўнае месца. Сваёй адукацыяй у галіне цырульніцтва Арланда Піто займаўся самастойна і ішоў наперад з думкай, што на свеце ўсё магчыма. Ні ў чым не любіць сябе абмяжоўваць. Адсутнасць межаў для цырульніка можа азначаць і... адсутнасць валасоў. Ён гаворыць: «Я ўпэўнены, што кожны павінен брыць галаву хаця б адзін раз у жыцці, бо гэта дае чалавеку адчуванне свабоды і вельмі разнявольвае». Вось такая экстравагантная асоба.

У Брукліне знаходзіцца сусветна вядомы салон Хэміт Кінкс, дзе робяцца складаныя мудрагелістыя прычоскі. Некаторыя з іх лічацца нават скульптурнымі. Усё больш зорак, такіх, як Стыві Вандэр, Анджэла Басэт давяраюць свае доўгія валасы майстрам салона. Гаспадыня салона Энні Прэстонія гаворыць: «Я думаю, што валасы — гэта значна больш, чым проста валасы на галаве. Ваша прычоска адлюстроўвае ўнутраны стан душы».

Дыктату моды ў дызайне валасоў зараз проста не існуе. Няма ўжо адзінага моднага напрамку. Ёсць і цэніцца толькі індывідуальны стыль. Хаця ўсё часцей на подыумах з'яўляюцца мадэлькі ці з вельмі доўгімі валасамі (Кірсці Х'юм, Крыстыэль, Клаўдзія Шыфер, Крысці Тэрлінгтан) ці, наадварот — з вельмі кароткімі стрыжкамі — Надзя Аўэрман, Ніна Брос, Кэралайн Мэрфі, Лінда Евангеліста.

Дзікія, непрыручаныя валасы — хіт гэтага сезона! Шыкоўныя незвычайныя валасы літаральна дапамаглі зрабіць кар'еру мадэльцы Крыстэль. Яны далі ёй тую індывідуальнасць, што і прывяло да стварэння ўласнага стылю, стылю Крыстэль.

«Людзі з моды адкрылі ва мне прыгажосць, якую я не ведала. Яны дапамаглі мне зразумець, што мае валасы прыгожыя, бо іх тып вельмі рэдкі. А раней я саромелася іх і ўсё аддала б, каб мне іх распрамілі і прымусілі роўна ляжаць. Зрабіць для мяне прычоску — цяжкая задача. Валасы тырчаць ва ўсе бакі, быццам наэлектрызаваны».

Нават у школе яе валасы проста перашкаджалі вучням бачыць настаўніка, калі Крыстэль сядзела за другой партай. Таму ёй неабходна было заплятаць косы.

Крыстэль адзначае, што яе валасы сталі вялікай навізной у модзе, як глыток свежага паветра ў забруджаным горадзе. У гэтым ёй не адмовіш у самаўпэўненасці. Зараз гэтая дзяўчына спрабуе заваяваць Нью-Йорк і не толькі сваімі ашаламляльнымі, незвычайнымі валасамі, але і розумам. Яе кар'ера ўсё хутчэй пачынае набіраць абароты, ставячы Крыстэль на адну «лінію» з вядомымі супермадэлькамі свету. Рабіце высновы, і, калі ў вас незвычайны тып валасоў, не спяшайцеся да цырульніка са страхам, што вы не такая, як усе. Не страшна, што вы выдзяляецеся з натоўпу. Ганарыцеся сваёй непаўторнасцю! Калі ж вам не пашчасціла нарадзіцца з выключнымі валасамі, як у Крыстэль, тады паспрабуйце прымерыць яе стыльны выгляд на сабе, тым больш, што пышныя, раскудлачаныя валасы, зачэсаныя назад, — гарачы напрамак у модзе.



На апошніх паказах калекцый Гучы (Gucci) топ-мадэлькі мелі ўскудлачаныя, зблытаныя валасы і чуллівы выгляд. Балансіруючы па подыуме, яны нібы сціпла шапталі: «Так, так, нас толькі што выцягнулі з ложка». Але не падманіцеся! «Гэты, быццам бы недароблены выгляд, патрабуе неймавернага старання і часу», — гаворыць стыліст па валасах Кім Лэпайн. Каб дасягнуць моднай раскудлачанасці канца 90-х, Лэпайн дае такія парады: даверцеся якаснаму грабянцу, крыху мусу або пенкі для аб'ёму валасоў і цёплы струмень фена зробіць сваю справу. Карыстаючыся грабянцом, зачашыце валасы назад ад ілба. Потым зафіксіруйце іх пры дапамозе заколкі або касцянога грэбня. Нанясіце замацавальнік на канцы валасоў і трымайце фен так, каб паветра дзьмула знізу ўверх на валасы. Трымаць фен да таго часу, пакуль гарачае паветра не зробіць жаданага аб'ёму і пышнасці. Самы верхні слой валасоў можна расчасаць і прыгладзіць, каб надаць натуральнасць.

Між іншым, у кожнага свой густ, сваё пачуццё прыгажосці і, дарэчы, свая форма галавы, якасць валасоў. І нават самаму ўмеламу цырульніку рэдка ўдаецца ўзнавіць дакладную копію той ці іншай прычоскі. Але справа не ў гэтым. Галоўнае — індывідуальнасць і ваш уласны стыль.

**Інфармацыю падрыхтавала Вольга БУКАНАВА**
па матэрыялах часопіса «VOGUE».

# Post Factum

## Гэты дзень у гісторыі

**26 ліпеня 102 года да н. э.** нарадзіўся рымскі імператар Гай Юлій Цэзар. Забіты ў 44 годзе да н. э. у выніку змовы рэспубліканцаў. Аўтар «Запісак аб гальскай вайне» і «Запісак аб грамадзянскіх войнах». Правёў рэформу календара.

**У 1101 годзе** ў Мінску пачаў княжыць Глеб Усяславіч — першы князь мінскага ўдзельнага княства.

Споўнілася 880 гадоў, як у 1116 годзе ў «Аповесці мінулых гадоў» упершыню быў згаданы горад Слуцк.

**26 ліпеня 1856 года** нарадзіўся вядомы англійскі пісьменнік Джордж Бернард Шоу, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1925 года, аўтар такіх твораў, як «Прафесія пані Уорэн», «Пігмаліён», «Цэзар і Клеапатра», «Дамы ўдаўца».

У гэты дзень **у 1885 годзе** нарадзіўся славуты французскі пісьменнік Андрэ Маруа, аўтар «Пісьмаў незнаёмцы» і шматлікіх раманізаваных біяграфій (кнігі пра Байрана, Бальзака, Тургенева, Жорж Санд, Гюго, Дзюма).

**26 ліпеня 1908 года** нарадзіўся Сальвадор Альендэ, вядомы палітычны дзеяч і прэзідэнт Чылі ў 1970—73 гадах. Забіты ў верасні 1973 года ў час ваеннага перавароту.

## Цікава

**Вядомая англійская піваварная фірма «Гінес», якая штогод выпускае сваю «Кнігу рэкордаў», толькі што апублікавала зборнік няўдалых прагнозаў і заключэнняў, зробленых у свой час адносна новых адкрыццяў, вынаходстваў, ідэй буйнымі вучонымі. У кнізе больш за 1300 такіх кур'ёзных «прадказанняў».**

- У 1949 годзе фірма IBM прадставіла прагноз, згодна з якім уся сусветная патрэбнасць у ЭВМ складзе ў «аглядным будучым»... 10—15 машын.
- У 1980 годзе салідная амерыканская фірма «Джыджытал Эквіпмент» лічыла, што «персанальны камп'ютэр не знойдзе прымянення».
- Славуты англійскі фізік лорд Кельвін, які ў канцы мінулага стагоддзя быў прэзідэнтам Каралеўскага таварыства (англійскай акадэміі навук), сцвярджаў, што адкрыццё рэнтгенаўскіх прамянёў — падман шырокай публікі хітрым аферыстам, а бяздротавы тэлеграф не мае ніякай будучыні.
- Сэр Уільям Прыс, галоўны інжынер брытанскага паштовага ведамства, даведаўшыся аб вынаходстве тэлефона, заявіў: «У нас у Англіі гэтая навінка не прыжывецца. У Лондане, дзякуй Богу, яшчэ дастаткова хлопчыкаў-пасыльных для дастаўкі тэрміновых паведамленняў з аднаго дома ў другі».
- У 1903 годзе, у год першага палёту братоў Райт на апараце, цяжэйшым за паветра, канадскі астраном Сайман Ньюкам (адкрывальнік планеты Нептун) пісаў: «Палёт у паветры адносіцца да разраду тых праблем, з якімі чалавек не справіцца ніколі».
- Ужо згаданы вышэй Уільям Прыс сцвярджаў у 1878 годзе, што стварэнне асвятляльнай электрасеткі немагчыма, бо для кожнай электралямпачкі ці, у лепшым выпадку, для кожнай кватэры давядзецца ставіць сваю невялікую дынамамашыну.

## Неверагодна?

***Мы расказвалі ўжо аб тым, як ваенныя многіх краін выкарыстоўваюць для сваіх мэт «паслугі» розных жывёлін. У прыватнасці дэльфінаў, нерпаў, іншых марскіх жывёлін вучаць мініраваць караблі праціўніка і г. д.***

І вось нядаўна італьянскія дэльфіны моцна азадачылі сваіх камандзіраў-начальнікаў. На адным з паказальных заняткаў баявы дэльфін паспяхова прыклеіў магнітную міну да днішча ўказанага яму судна. Вярнуўшыся на базу, ён разам з дрэсіроўшчыкамі назіраў, як выбух разнёс карабель ушчэнт.

Начальства засталося задаволеным. Але дэльфін раптам стаў гучна выказваць сваё незадавальненне. Ён кідаўся і вішчаў на ўсе лады.

А на наступную раніцу ўся «баявая» група, у якой жыў і вучыўся «баец», адмовілася ад заняткаў. Яны плавалі, гарэзліва гойсалі, дакладна выконвалі «мірныя» каманды, але ні да адной з вучэбных мін не дакрануліся. Трэнеры тлумачылі гэта так: «Учарашняму выдатніку не спадабаліся вынікі яго работы. Аб гэтым ён «расказаў» іншым членам групы і «пераканаў» дэльфінаў не займацца больш такімі практыкаваннямі». Давялося перавесці «байцоў» на больш мірную прафесію — цыркавыя трукі.

## Загадкавае

***Нявеста, якая знікла ў час вясельнага круізу ў «д'ябальскім трохвугольніку», сустрэлася са сваім узрушаным мужам у тым жа самым праклятым месцы, дзе яна знікла 40 гадоў таму.***

Калі 58-гадовы Том Плезантс на сваім судне падплыў да старой парусной шлюпкі, якая падавала сігнал бедства, ён думаў, што ўбачыць на борце прасоленых матросаў. Замест гэтага ўражаны Плезантс убачыў прыгожую маладую дзяўчыну, у якой ён пазнаў сваю нявесту, што знікла ў трохвугольніку 40 гадоў таму.

Яна таксама называлася Рэгінай, успомніла некаторыя падзеі, якія можа ведаць толькі нявеста Плезантса. «У прыватнасці, яна ўспомніла назву царквы, дзе мы вянчаліся, назвала імя святара і нават колер маіх чаравікаў», — расказвае былы жаніх.

«У той дзень усё адбылося раптоўна, — успамінае Плезантс. — На невялікай парусной шлюпцы «Міс Рэгіна» мы плавалі ля Багамскіх астравоў. Нечакана наляцеўшы шквал выкінуў мяне з лодкі. Я чуў, як Рэгіна клікала мяне, але я не мог плыць назад. Напэўна, я страціў прытомнасць». Калі Плезантс апрытомнеў, вада вакол была спакойная, а ён ляжаў на палубе рыбалоўнай шхуны. Яе капітан расказаў, што не бачыў ніякага шторму, яны заўважылі толькі беспрытомнага маладога чалавека, які плыў на драўляным абломку. «Міс Рэгіна» знікла назаўсёды. І вось, паведаміла газета «Weekly world news», нечаканая сустрэча.

## Анекдот

*Пацыент скардзіцца:*
*— Доктар, у мяне бяссонніца.*
*— А вы спрабавалі лічыць?*
*— Так, звычайна лічу да васемнаццаці тысяч дзевяцісот сямідзесяці шасці.*
*— А пасля?*
*— Пасля трэба ўставаць на работу...*

# КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях**: 5. Буйная драпежная птушка, якая харчуецца пераважна рыбай. 6. Купалаўскі мемарыяльны запаведнік у Аршанскім раёне. 8. Дадатковая, часцей за ўсё здымная абгортка кнігі. 12. Прыток ракі Бярэзіны. 13. Стан глыбокай стомленасці. 14. Момант пачатку спартыўных спаборніцтваў. 17. Загаловак раздзела ў газеце, часопісе. 18. Вядомы рускі жывапісец XIX стагоддзя. 20. Насельніцтва дзяржавы, краіны. 21. Дзяржава на поўначы Афрыкі. 24. Устарэлая назва падарунка. 26. Музычны духавы інструмент. 29. Жаночае імя. 30. Знак дзяржавы, вайсковай часці (стар.). 31. Сродак, пры дапамозе якога ствараецца моцнае ўражанне. 34. Аднаўленне ўрадлівасці глебы. 35. Рух вады ў рэчышчы. 36. Заштрыхаванае поле, фон у гравюры і малюнку.

**Па вертыкалях**: 1. Калектыў артыстаў тэатра, цырка. 2. Высокі жаночы голас. 3. Зімовае логава мядзведзя. 4. Італьянская залатая і срэбраная манета XVI—XVIII стагоддзяў. 7. Службовая асоба малодшага каманднага саставу экіпажа судна. 8. Прыстасаванне, прызначанае для зладжанасці якіх-небудзь працэсаў або работы механізмаў. 9. Апісанне свайго жыцця. 10. Беларускі паэт, аўтар зборніка вершаў «Матчын дар». 11. Стыль плавання. 15. Беларускі першадрукар і асветнік. 16. Нормы паводзінаў, прывычка. 22. Жаночы персанаж оперы Ю. Семянякі «Калючая ружа». 23. Шахматная фігура. 25. Музычны твор з некалькіх частак, розных па характару і тэмпу. 27. Горная выпрацоўка ў шахце, якая мае выхад на паверхню зямлі. 28. Казачная страшная істота. 32. Лінейка з дзяленнямі ў вымяральных прыборах. 33. Асобная частка акта тэатральнай п'есы.

**Па дузе**: 19. Песня кампазітара У. Мулявіна на словы П. Броўкі.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*



## ПЫТАННІ З ПАДВОХАМ

Даслала гэтыя займальныя пытанні мінчанка Надзея Філімонава. На кожнае з іх трэба адшукаць нейкі адказ-тлумачэнне.

1. Сёння раніцай я ўпусціла завушніцу ў каву, але хоць кубачак быў поўны да краёў, я змагла дастаць завушніцу, нават не замачыўшы пальцаў. Як гэта магло здарыцца?

2. Учора мой бацька трапіў пад дождж. Ні парасона, ні капелюша ён з сабой не ўзяў. Схавацца ад дажджу таксама не было дзе. І калі ён нарэшце дабраўся дадому, вада з яго лілася ручаём, але ніводзін валасок на галаве не прамок. Як гэта атрымалася?

3. Аднойчы позним вечарам мой дзядзька чытаў цікавую кнігу. Цётка па рассеянасці выключыла святло. Але хоць у пакоі было зусім цёмна, дзядзька працягваў чытаць, як быццам нічога не здарылася і дачытаў кнігу да канца... У чым тут справа?

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка (20 ліпеня). Па гарызанталях**: 1. Какаду. 6. Бамбук. 9. Стартэр. 10. Саната. 12. Апетыт. 14. Мак. 15. Фанема. 17. Апалон. 20. Электрадынаміка. 25. Дыскваліфікацыя. 28. Адрэта. 30. Лагода. 31. Туя. 32. Трапак. 34. Лакаўт. 35. Украіна. 36. Агрэст. 37. Дыксан. **Па вертыкалях:** 1. Касцёр. 2. Каніфоль. 3. Уса. 4. Карма. 5. «Атака». 6. Бра. 7. Батаніка. 8. Котлас. 11. Тоніка. 13. «Полымя». 16. Маркітант. 18. Пантаміма. 19. Адамсіт. 21. Дыназаўр. 22. Скарга. 23. Балота. 34. Дысананс. 26. Кастра. 27. Бастон. 29. Атара. 30. Ляпіс. 33. Кут. 34. Лад.

**Галаваломка (20 ліпеня).** Зашыфраваная прымаўка такая: «Хто пытае, той не блудзіць».

***У сувязі са святам — Днём незалежнасці — наступны нумар «Звязды» выйдзе ў аўторак, 30 ліпеня.***

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4146.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12